Народная Воля 17 СНЕЖНЯ 1999 г.

## Па словах А.Севярына, працэс усталявання клімату ўзаемнага даверу ў Беларусі стаў для АБСЕ "крыніцай расчаравання"

Пра гэта старшыня рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ днямі заявіў на прэс-канферэнцыі.

Па ягоных словах, АБСЕ рабіла масу высілкаў, каб усталяваць клімат даверу, без якога перамоўны працэс не мог пачацца ўвогуле. Вызваленне з-пад варты былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра і падпісанне экспертамі па СМі з абодвух бакоў дакументаў аб доступе палітычнай апазіцыі да дзяржаўных мас-медыя надавалі АБСЕ пэўны аптымізм. Аднак затым напаткала расчараванне — найперш з-за таго, што падпісаныя дамоўленасці ўрадавым бокам не выконваюцца.

У сувязі з гэтым Адрыян Севярын паведаміў, што напярэдадні падчас сустрэчы з міністрам замежных спраў Уралам Латыпавым ён паставіў пытанне аб вызначэнні ўладамі асобы, якая, валодаючы адпаведнымі паўнамоцтвамі, магла б кіраваць кансультацыямі з экспертамі ад апазіцыі, не чакаючы, пакуль будзе прызначаны пераемнік Міхаіла Сазонава ў ролі кіраўніка ўрадавай дэлегацыі.

А.Севярын нагадаў, что гэта ўжо шосты ягоны візіт у Мінск. Традыцыйна праграма ўключала ў сябе сустрэчы як з афіцыйнымі асобамі, так і з прадстаўнікамі апазіцыі. Мэта візіту заставалася ранейшай - арганізацыя і правядзенне ў 2000 годзе свабодных і дэмакратычных парламенцкіх выбараў.

Кіраўнік рабочай групы па Беларусі зазначыў, што яго вельмі непакоіць той цэйтнот, у якім апынаюцца прыхільнікі дэмакратычных пераўтварэнняў. Час правядзення парламенцкіх выбараў няўмольна набліжаецца, а перамовы паміж уладамі і апазіцыяй фактычна не пачыналіся. А.Севярын паведаміў, што ў канцы студзеня будучага года яму трэба будзе выступіць у Вене з дакладам перад пастаянным камітэтам Парламенцкай асамблеі АБСЕ, а таксама ў Страсбургу, у Савеце Еўропы , з дакладам аб дзейнасці АБСЕ ў Беларусі. Кіраўнік рабочай групы па Беларусі адзначыў, что падчас свайго пяцідзённага знаходжання ў Мінску заклікаў усе палітычныя сілы шукаць канструктыўнае вырашэнне беларускіх праблем.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

## "Міжнародная амністыя" асуджае збіванне Андрэя Клімава

Паводле інфармацыі праваабарончай арганізацыі "Міжнародная амністыя", дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання А. Клімаў быў збіты, калі адмовіўся пакінуць сваю камеру ў СіЗО № 1, каб ехаць у суд Ленінскага раёна Мінска. Дэпутат спрабаваў пратэставаць такім чынам супраць несправядлівага, на ягоную думку, судовага працэсу. Паводле слоў сведкаў, калі А.Клімава прывезлі ў суд, ён рухаўся з вялікай цяжкасцю. Да будынка суда была выклікана машына хуткай медыцынскай дапамогі, але суддзя не дазволіла даставіць падсуднага ў бальніцу. Пазней было высветлена, што А.Клімаў атрымаў значныя ўнутраныя крывацёкі, а таксама, магчыма, пералом ці вывіх косці рукі, паведамляе "Міжнародная амністыя".

А.Клімаў, які знаходзіцца пад вартай з лютага 1998 года па абвінавачаннях у фінансавых парушэннях, быў абвешчаны "Міжнароднай амністыяй" вязнем сумлення. На думку арганізацыі, сапраўднай прычынай арышту дэпутата было ягонае змаганне супраць гвалтоўнага роспуску Аляксандрам Лукашэнкам Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

**Алесь АБРАМОВіЧ.**

## У вас акцызныя маркі сапраўдныя?

З 1 студзеня 2000 года ўсе аб'екты гандлю алкагольнай прадукцыяй і тытунёвымі вырабамі (уключаючы прадпрыемствы грамадскага харчавання) павінны быць аснашчаны спраўнымі прыборамі для праверкі сапраўднасці акцызных марак і спецыяльных знакаў, якія б пацвярджалі легальнасць увозу тавару на тэрыторыю Беларусі або ягонай вытворчасці. З напамінкам пра гэта ўсім юрыдычным асобам і індывідуальным прадпрымальнікам, якія ажыццяўляюць аптовы і розьнічны гандаль згаданай прадукцыяй і вырабамі, выступіў Дзяржаўны падатковы камітэт (ДПК) Беларусі.

У адпаведнасці з рашэннем Савета Міністраў Камітэтам па кантролі за вытворчасцю і абаротам алкагольнай, нехарчовай спіртаўтрымліваючай прадукцыі, спірту этылавага і нехарчовай сыравіны і тытунёвых вырабаў пры ДПК вядзецца рэестр прыбораў для праверкі сапраўднасці акцызных марак і спецыяльных знакаў.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры ДПК, адсутнасць на аб'ектах гандлю (грамадскага харчавання) дазволеных да прымянення і спраўных прыбораў для праверкі сапраўднасці акцызных марак і спецыяльных знакаў, а таксама адмаўленне пакупніку ў праверцы ў яго прысутнасці сапраўднасці гэтых марак і знакаў такімі прыборамі цягне накладанне штрафу ў памеры ад 20 да 50 мінімальных заработных плат.

**Аляксей АРЭШКА.**

Мяжа

## Афганцы штурмуюць беларускую мяжу

Вялікую групу нелегальных мігрантаў — 26 грамадзян Афганістана — затрымалі днямі паблізу вёскі Маркаўцы Гродзенскай вобласці пагранічнікі Гродзенскага пагранічнага атрада.

Пра гэта БелаПАН паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі. Група была затрымана ў паўтара кіламетрах ад дзяржаўнай мяжы Беларусі з Польшчай.У прэс-цэнтры Дзяржкамітэта асабліва адзначылі дапамогу мясцовага насельніцтва: пагранічнікам загадзя паведамілі пра рыхтуемае парушэнне мяжы.

**Вячаслаў БУДКЕВіЧ.**

Крымінал

## Хто схаваў у самалёце 20 тысяч долараў?

20 тысяч 555 долараў ЗША былі знойдзены пагранічнікамі на днях пры даглядзе ў аэрапорце "Мачулішчы" ў Мінскім раёне транспартнага самалёта ІЛ-76 авіярэйса Мінск — Тэгеран.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі, валюта была схавана ў пілоцкай кабіне за спінкай крэсла бортінжынера. Кантрабанда перададзена ў мытню, вядзецца разбіральніцтва.

**Вячаслаў БУДКЕВіЧ.**

SOS!

## Чертов дом

Говорят, что число 13 несчастливое. Даже если оно комбинируется с другими цифрами. В справедливости такого поверья можно убедиться на примере дома № 113 по улице Рафиева в Минске.

За прошедшие два месяца в этом доме совершается уже второе убийство. На третьем этаже этого злополучного здания все еще не успели отодраить огромную лужу крови. Она вобрала в себя память о том жутком событии, когда десятки раз нож вонзался в тело своей жертвы.

И вот, минувший вторник вновь оказался праздником ножевого клинка. Забежавший в подъезд парень дважды пырнул ножом стоявшего перед лифтом жильца этого дома. Причина для расправы была очень серьезной: погибший не дал убийце закурить. По факту обоих убийств ведется следствие.

**Сергей НАВОЕВ.**

## Паліўныя пакуты

Калі яшчэ некалькі гадоў таму ў зімовы перыяд у Шаркоўшчынскім прадпрыемстве па паліве працавалася адносна спакойна, то зараз чарга на торфабрыкет складае ўжо 1600 чалавек. Пры гэтым, як і на звадкаваны газ, прасоўваецца яна вельмі марудна. Толькі ў пачатку снежня ўдалося задаволіць патрэбы 173 ільготнікаў і яшчэ 50 грамадзян, якія зрабілі перадаплату паўгода таму.

З пачатку года сюды не давезлі, як меркавалася, 2306 т торфабрыкету, а ў гэтыя дні за змену дастаўляецца ў межах 30—32 тон паліва. Своечасова не паспяваюць выканаць усе заяўкі на дровы лясніцтвы гэтага і суседніх раёнаў. Тым часам з 25 лістапада мінімальны кошт тоны брыкету павялічыўся да 3,5 млн. рублёў. І яўна засмуціў 35 тысяч жыхароў Віцебшчыны, якія чакаюць сваёй чаргі. Дрэнна з палівам у глыбінцы, але і ў самім Віцебску больш за дзве тысячы ўладальнікаў прыватных дамоў яшчэ не вырашылі падобныя праблемы.

Жыццё перыферыйнае...

## Спыніўся транспарт

Услед за іншымі раёнамі Віцебшчыны з-за адсутнасці бензіну з 10 снежня адменены большасць прыгарадных рэйсаў і спыніўся рух гарадскіх аўтобусаў у Паставах. Напярэдадні бензавозы мясцовага аўтапарка №17 вярнуліся з прадпрыемства "Круляўшчызнанафтапрадукт" пустымі. Праўда, да поўнага закрыцця ўсіх аўтобусных маршрутаў справа не дайшла, бо ў калектыве меўся нейкі запас саляркі. Дзякуючы гэтаму пайшлі ў рэйсы на Мінск і Вільнюс і яшчэ ў пяць населеных пунктаў аўтобусы з дызельнымі рухавікамі. Падобныя зрывы былі ў горадзе і раней, а некалькі гадоў таму наогул амаль тыдзень перад навагоднімі святамі аўтатранспарт прастойваў. Між іншым, даўгі аўтамабілістаў Віцебшчыны нафтабазам складаюць каля 60 мільярдаў рублёў, аграрны сектар запазычыў ужо трыльён рублёў за паліва, якое няўхільна даражэе і часта адсутнічае ў продажы.

**Уладзімір ШЫК.**

## У заражаных радыенуклідамі лясах Столінскага раёна разгарнулася несанкцыянаваная высечка дрэў

З надыходам зімы ў заражаных лясах Століншчыны зноў распачалася масавая высечка дрэў без дазволаў. Такая карціна назіраецца тут ужо каторы год, выклікаючы трывогу ў прыродаахоўных арганізацый.

Паколькі на Столішчыне газіфікаваныя толькі асобныя паселішчы, большасць жыхароў зімой абагравае хаты і цяпліцы (раён славіцца раннімі агуркамі) вуглем і дрывамі. Вугаль цяпер у дэфіцыце, таму асноўным палівам з'яўляюцца дровы. Праўда, больш за ўсё ў мясцовым лясгасе занепакоены нават не высечкамі для асабістых патрэб, а недазволенымі нарыхтоўкамі на продаж. Асабліва заўзята імі займаюцца жыхары вялікіх вёсак Хатомель і Рубель — бывае, што ў дзень па 30—40 фурманак кіруюць адтуль у лес.

Штрафы за самавольную высечку (ад 0,2 да 1,8 "мінімалкі" за дрэва) такіх нарыхтоўшчыкаў не пужаюць. Многія з тых, хто быў злоўлены за руку, проста адмаўляюцца плаціць. Напрыклад, жыхар Хатомля І., які за апошнія 3 гады 12 разоў быў затрыманы за самавольную высечку. Як расказаў карэспандэнту БелаПАН вядучы інжынер аховы і абароны лесу Столінскага лясгаса Фёдар Мельнік, барацьба з парушальнікамі вядзецца агульнымі намаганнямі — і работнікі лясгаса, і леснікі, і ўчастковыя інспектары міліцыі сочаць за парадкам у лясной гаспадарцы. Аднак сіл недастаткова, каб усачыць за лясамі Століншчыны, якія займаюць плошчу каля 160 тысяч гектараў.

Самая ж вялікая бяда ў тым, што амаль усе лясы раёна забруджаны радыенуклідамі. Падчас дазволеных высечак радыелагічная служба правярае мясцовасць і дае сваё заключэнне. А вось самавольна жыхары раёна сякуць дрэвы і на забруджаных участках. Потым гэтымі дрывамі паляць печы ў хатах, абаграваюць цяпліцы, а попелам пасыпаюць зямлю на агародах. Звыш таго, заражаныя дровы ідуць на продаж і ў іншыя раёны вобласці, а таксама на Украіну.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Горный климат в... Витебске

Первых пациентов приняла барокамера в Витебске. Принцип лечения в ней основан на создании специфических условий горного климата, а показано оно страдающим бронхиальной астмой, хроническими бронхитами, гипертонической болезнью.

**На снимке:** *барокамера и ее пациенты.*

**Фото Александра ХИТРОВА, БелТА.**

Малайцы!

## Не зарасце сцяжынка да крынічкі

На рэдкасць сухое і гарачае лета да гэтага часу нядобрым словам узгадваюць многія вяскоўцы. Калі ў многіх мясцінах Віцебшчыны амаль знікла вада ў калодзежах, дык у калгасе "Ленінскі шлях" Міёрскага раёна такіх праблем няма. Больш за тое, да зімовай сцюжы тут паспелі пачысціць і прыгожа архітэктурна змяніць падземную крыніцу. Вада ў ёй рэдкай чысціні і вельмі смачная, што дазволіць у любую пару года наталіць смагу. Грашовымі сродкамі на будаўніцтва арыгінальнага калодзежа ля крынічкі дапамагла гаспадарцы мясцовая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы акаляючага асяроддзя. З гэтай нагоды тут прайшлі невялічкія ўрачыстасці з удзелам тутэйшых жыхароў і святара, які асвяціў маляўнічае месца.

**Уладзімір РАМАНЧУК.**

Стоп-кадр

Продавцы рыбы на дороге Минск — Бобруйск с интересом рассматривают автомашину, которая везет на крыше зажженную минору — символ еврейского праздника Ханука.

**Фото IREX/ProMedia.**

Жизнь, как она есть

## И пол-яйца для каждого мужчины

*Разговор о том, как питаются белорусы, назрел давно. Прочитав в "Народной воле" интервью с Валерием Мурохом — главным специалистом Минздрава по проблемам питания, решил высказаться.*

*Опубликуйте таблицу суточного и годового набора продуктов для мужчины и женщины трудоспособного возраста, утвержденную Советом Министров Беларуси в марте этого года. Как удалось ее раздобыть — разговор отдельный. Хочу предложить эту таблицу читателям "Народной воли", чтобы они знали, как заботится о нас наше правительство.*

***УТВЕРЖДЕНО***

***Постановление Совета Министров***

***Республики Беларусь***

***31.03.1999 №458***

Прожиточный минимум трудоспособного населения включает наборы продуктов и предметов гардероба для мужчины и женщины трудоспособного возраста, транспортные услуги, взносы и платежи. Расходы на приобретение товаров бытового и хозяйственного назначения, постельного белья, предметов первой необходимости, санитарии и лекарств, на оплату жилищно-коммунальных и бытовых услуг составляют 1/4 аналогичных статей расходов семьи из 4 человек.

### Суточный и годовой наборы продуктов для мужчины и женщины трудоспособного возраста

| Наименование продукта | Для мужчины | | Для женщины | |
|---|---|---|---|---|
| | Количество в сутки (граммов) | Количество в год (килограммов) | Количество в сутки (граммов) | Количество в год (килограммов) |
| Хлеб ржаной | 302,2 | 110,0 | 184,3 | 67,1 |
| Хлеб пшеничный | 195,1 | 71,0 | 158,0 | 57,5 |
| Мука пшеничная | 44,2 | 16,1 | 35,4 | 12,9 |
| Макаронные изделия | 15,0 | 5,5 | 11,3 | 4,12 |
| Рис | 14,8 | 5,4 | 11,7 | 4,3 |
| Крупа овсяная ("Геркулес") | 14,3 | 5,2 | 11,4 | 4,2 |
| Крупа гречневая | 9,9 | 3,6 | 7,1 | 2,6 |
| Крупа пшенная | 4,7 | 1,7 | 3,3 | 1,2 |
| Бобовые (фасоль, соевые продукты) | 29,1 | 10,6 | 24,5 | 8,9 |
| Картофель | 351,6 | 128,0 | 316,5 | 115,2 |
| Капуста | 107,7 | 39,2 | 102,3 | 37,2 |
| Столовые овощи — всего, в том числе: | 73,1 | 26,6 | 71,0 | 25,8 |
| морковь | 50,4 | 18,4 | 49,0 | 17,8 |
| свекла | 22,7 | 8,2 | 22,0 | 8,0 |
| Зелень (лук, петрушка и другие) | 7,1 | 2,6 | 7,1 | 2,6 |
| Огурцы | 9,9 | 3,6 | 9,4 | 3,4 |
| Томаты | 21,1 | 7,7 | 20,1 | 7,3 |
| Другие овощи | 5,8 | 2,1 | 5,1 | 1,9 |
| Овощные консервы | 9,9 | 3,6 | 8,9 | 3,2 |
| Масло растительное | 23,1 | 8,4 | 19,8 | 7,2 |
| Масло животное | 8,5 | 3,1 | 7,2 | 2,6 |
| Молоко нежирное | 168,4 | 61,3 | 160,0 | 58,2 |
| Кисломолочные продукты | 160,7 | 58,5 | 130,3 | 47,4 |
| Сметана | 4,9 | 1,8 | 3,9 | 1,4 |
| Сыры твердые | 7,4 | 2,7 | 6,5 | 2,3 |
| Творог | 32,7 | 11,9 | 29,4 | 10,7 |
| Маргарин и другие жиры | 3,6 | 1,3 | 2,7 | 1,0 |
| Яйцо (штук) | 0,4 | 160 | 0,4 | 146 |
| Колбасные изделия и копчености | 3,8 | 1,4 | 2,6 | 0,9 |
| Говядина | 45,1 | 16,4 | 33,8 | 12,3 |
| Свинина | 10,4 | 3,8 | 7,9 | 2,9 |
| Субпродукты | 7,7 | 2,8 | 5,6 | 2,0 |
| Птица | 63,7 | 23,2 | 54,2 | 19,7 |
| Рыба свежая (свежемороженая) | 28,9 | 10,5 | 22,6 | 8,3 |
| Рыба соленая (сельдь) | 5,2 | 1,9 | 4,5 | 1,6 |
| Фрукты | 79,3 | 28,9 | 74,2 | 27,0 |
| Соки фруктовые | 39,2 | 14,3 | 35,4 | 12,9 |
| Сахар | 43,8 | 15,9 | 30,8 | 11,2 |
| Сухофрукты | 5,2 | 1,9 | 5,2 | 1,9 |
| Чай | 2,3 | 0,8 | 2,3 | 0,8 |
| Соль | 10,0 | 3,65 | 10,0 | 3,65 |

Достаточно познакомиться с этой таблицей, чтобы понять, как любит наше правительство свой народ. Мужчине в трудоспособном возрасте предлагается в день 95 граммов мясных продуктов, 35 граммов рыбных и половина яйца. Кушайте на здоровье! Только будем ли мы здоровы, питаясь так? И сколько проживем? На нашем заводе, например, в период с 1983 по 1994 год умерло девятьсот работников объединения в возрасте 49,5 (мужчины) и 51 (женщины) год.

Цифры "корзинки" — коэффициент полезного действия сегодняшней власти. Только она этого понимать не хочет. Наверное, оттого, что правительственные мужи так не питаются. А забота о народе — это только звучит красиво. На деле — сами видите, что получается.

**Валерий ГОРБАЦЕВИЧ, горнорабочий ПО "Беларуськалий".**

Тюремные университеты

## Восьмой арест

*(Продолжение. Начало в №№228, 230, 231, 232.)*

### Тюремный карантин

Трехсуточное пребывание в камере-отстойнике именуется тюремным карантином. Согласен, что определенная временная пауза для наблюдения за лицами, прибывающими в места массового скопления, необходима. Но "карантин", по определению, это — пункт санитарного осмотра прибывших из местности, пораженной эпидемией. В тюремном же варианте от "карантина" осталось только название. Творится там, по существу, противоположное: это — пункт для распространения инфекции. И при поступлении очередных арестантов проводится не медицинский осмотр, а тюремный "шмон".

Личный досмотр, безусловно, нужен. Но если среди поступивших в СИЗО лиц окажется арестант с заразной болезнью, то за трое суток пребывания в переполненной камере в условиях антисанитарии и отсутствия индивидуальной посуды инфицирование остальных неизбежно. В камере №198 даже унитаз смыть невозможно: вода из крана течет лишь тонюсенькой струйкой, толщиной в спичку.

Медицинский осмотр начался только на второй день. Заключался он в том, что завели медкнижку и взяли кровь из вены на анализ. С содроганием смотрел, как у сокамерника-наркомана кровь на анализ брали из вены на... шее, потому как из исколотых вен на обеих руках кровь не текла.

На третий день повели нас в "баню": 20 человек на четыре душевых насадки с холодной водой. Горячей воды, видимо, как и ложек, пребывающим в карантине не полагается. Флюорографию поступивших арестантов проводили уже после перевода "на постоянное местожительство". Специфическим, так сказать фирменным, отличием тюремного карантина от санитарного было фотографирование и дактилоскопия арестантов.

Является ли такой "карантин" в местах изоляции и отбывания наказания эпидемиологическим барьером, пусть судят специалисты. Как военный практик считаю, что суть увиденного мною в камере №198 характеризуется одним словом — "заразник". Армейская гауптвахта в сравнении с тюремным карантином — трехзвездочный отель.

### Камера №164

О камерах следственного изолятора наслышан был много. Однако та, в которую меня поместили, оказалась не такой уж и страшной. Сказалось прежде всего отсутствие психологического стресса, вызываемого внезапным лишением свободы, и боязни тюремного люда (как-никак восьмой арест). "Хата" с двухъярусными койками рассчитана на четыре места. Я стал четвертым. Свободное место, было на втором "этаже". На койке вместо сетки — жесткие металлические полосы, но все же есть матрас и подушка. Постельное белье, бывшее белым еще, видимо, в доперестроечные времена, представляло собой простыни грязно-серого цвета, но тем не менее регулярно менялось.

Чистота в "хате" — на два порядка выше, чем во всех предыдущих тюремных камерах, где мне довелось побывать. После чистосердечного признания, что в СИЗО я первый раз, меня, седого флотского кавторанга, стали обучать, как эту чистоту поддерживать, как пользоваться унитазом, как драить кружку и ложку. Невольно повеяло юностью, когда почти 40 лет назад я, матрос-салажонок, впервые услышал по корабельной трансляции команду: "Медь драить, резину белить!", а матросы последнего, тогда четвертого года службы, учили меня премудростям флотского лоска.

Питаются в камере, как и в матросском кубрике, за общим столом. Так что в ожидании своей продуктовой передачи с воли я со спокойной совестью ел то, что было у сокамерников. Тем более, что в Минском СИЗО проблемы с передачей продуктов в настоящее время во многом сняты: разрешены по две 16-килограммовых передачи в месяц.

По рассказам сокамерников, в провинциальных тюремных заведениях более одной 8-килограммой продуктовой передачи в месяц не пропускают. Такого количества харчей и одному мало, а учитывая, что очень многие арестанты вообще не получают передачи, то провинциальным арестантам приходится влачить полуголодное существование. Я это испытал на собственном желудке в столичном приемнике-распределителе. Весьма существенная разница: 5—6 человек в камере или 18—20.

Спиртного, понятное дело, в камере нет, и чтобы отметить знакомство и новоселье, "аборигены" предложили тюремный чифирь (очень крепкий настой чая — полпачки на литровую кружку). На вкус приятно, но потом так хватануло сердце, что впредь к этому напитку я уже не прикасался.

В тюрьме познал многое такое, о чем ранее как-то не задумывался. К примеру, что железную (правильнее будет — стальную) консервную банку можно открывать алюминиевой (!) ложкой. Что алюминиевой кружкой (зэчкой) можно спокойно пользоваться, если оплести у кружки ручку. Что Министерство внутренних дел и прокуратура нашего государства грубейшим образом нарушают требования Всеобщей декларации прав человека (статья 1 и 5) и Конституции Республики Беларусь (статья 22 и 25), осуществляя дискриминацию осужденных по половому признаку.

Оказывается, помимо наказания, установленного судом, правоохранительные органы своей властью подвергают мужчин дополнительному, по сравнению с женщинами, наказанию и унижению: стрижкой наголо головы и бороды. Я еще не был осужден и неизвестно, состоится ли надо мной суд вообще, а угрозы сбрить Щукину бороду раздавались в СИЗО неоднократно. Видимо, думают, что истоки непокорности непримиримого правозащитника кроются в бороде и, лишившись оной, я как старик Хоттабыч после аналогичной процедуры, перестану быть опасным.

### Информационное обеспечение

Не хлебом единым жив человек. Пища нужна и для ума. Конституция гарантирует всем без какого-либо исключения право на получение полной, достоверной и, что главное на мой взгляд, своевременной информации о политической жизни. В отличие от административной тюрьмы (приемника-распределителя), где демонстративно попирается право граждан на получение информации, в тюрьме кое-что делается.

Во-первых, в камере есть радио. Однопрограммное, расположено под потолком, слышимость не всегда достаточна, но все же это — источник информации.

Во-вторых, разрешается иметь свой собственный телевизор. Только вот получить нормальное изображение весьма затруднительно. На окне камеры установлены сплошные массивные металлические жалюзи с нежным тюремным названием "реснички". Они являются экраном не только для солнечного света, но и для радиоволн. Качественный прием станет возможен при установке на крыше тюрьмы мощной приемной антенны и разводке телевизионного кабеля в каждую "хату". Государство обязано не только кормить арестованных, но и обеспечить этим гражданам гарантированное Конституцией право на получение информации.

Однако и телевизор можно посмотреть далеко не всегда. Потому как в тот день, когда владельца голубого экрана увозят на допрос или на судебный процесс, телевизор заставляют из камеры забрать и до возвращения сдать его в камеру хранения. Не посмотришь телевизор и вечером: в 22 часа подача электроэнергии в камеру прекращается.

В-третьих, в камеру доставляют газету. В СИЗО на Володарке это — "Вечерний Минск". Все мои попытки заиметь другие печатные издания закончились неудачей. Газеты, вложенные в продуктовую передачу, не приняли, заявив, что корреспонденцию надо передавать через следователя. Но это правило, приемлемое для писем, не годится, в принципе, для средств информации: газета нужна в день выхода, а не через неделю.

По заверению начальника СИЗО, прессу в тюрьму можно выписать в любом почтовом отделении без каких-либо ограничений по адресу: 220050 г.Минск, УЖ15/1-из. Но это нельзя сделать с завтрашнего дня. Арестант сможет получать выписанные ему газеты не ранее чем через месяц. Следовательно, тюремная структура должна обеспечивать арестованных необходимой им периодикой из киоска "Союзпечать" сама. Естественно, за деньги своих "постояльцев".

Мое требование такого сервиса стало для тюремного начальства довольно неожиданным. Энергичные поиски в руководящих документах запрета на поставку арестантам газет за плату оказались безуспешными. Не смог возразить против этого и прокурор, надзирающий за порядком в местах лишения свободы, к которому я обратился за разъяснением. Надеюсь, что когда меня водворят на Володарку в следующий раз, задержек с доставкой в камеру прессы не будет.

Проблема политической информации в тюремных заведениях решается по принципу: "Спасение утопающих — дело рук самих утопающих". А ведь это — дело государственной важности. К примеру, в стране произошло событие межгосударственного значения — выступление А.Лукашенко перед российскими парламентариями, но послушать и посмотреть это не удалось: в соответствии с распорядком дня телевизор в камере выключили. На просьбу провести по данному вопросу политинформацию и ответить на интересующие вопросы тюремный воспитатель молча повернулся и ушел.

Руководство СИЗО претензии правозащитника Щукина по части нарушения права арестованных на получение информации обещало учесть. Что ж, поживем — увидим...

**Валерий ЩУКИН.**

*(Окончание следует.)*

